Год VI. Лістапад № 12 (72).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 12:

1. *** — М. Машара; 2. Да працы — А. К. 3. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня — Ад. Станкевіч; 4. Беларусы ў Латвіі — Беларус з-пад Латвіі; 5. Толькі учора — Малады Дубок; 6. Rańniaj Vosieńniu — Uład-Inicki; Vasieńni nastroj — J. Vilkoŭščyk; 7. 30-ўгодкі грамадзкае працы Цёткі — н. 8. Восень — А. Бярозка; 9. 25-cilećcie hramadzkaje pracy Hramadzianki Ludviki Vojcikavaj — J. N.; 10. З выстаўкі вучнёўскае прэсы ў В. Б. Г. — Я—к; 11. Listapad — Uł. Paŭ—ski; 12. Alehorja — „mitэ"; 13. Для нашых малодшых; 14. Хроніка; 15. Usiačupa; 16. Паштовая скрынка.

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год VI. | Вільня, Лістапад 1934 г. | № 12 (72). |
|---|---|---|

* * *

Ня страшны нам віхор шалёны,
Мы з ім — свае, душой — радня.
Дарогу! — хто жыцьцём стамлёны,
Хто малады — у вір жыцьця!

Ты, сьвет стары — адно вязьніца,
І ўзмах табе наш ня спыніць.
Мы — бура, крылы навальніцы,
Руйнуем усё, каб зноў тварыць.

Мы — моц!... Нас ня стрымаць, ня зьнішчыць
Наш дух — агонь, а грудзі — сталь.
Усім пакрыўджаным і лішнім
Нясём мы праўду, а ня жаль.

**М. Машара.**

## ДА ПРАЦЫ.

Хоць мучыць, хоць цяжка нам сіла уража,
Хоць ўсе мы пад страхам жывём,
Змагаймася, брацьця, як сілы нам стане,
А тое, што наша, вазьмём.

Мы доўга цярпелі, мы шчасьця ня мелі,
Як нашы бацькі і дзяды;
Настала часіна, прачнулась краіна,
І дух ў ёй ажыў малады.

Ня мае ён страху, а з сільным размахам,
Праз цемру магутным крылом,
Ён сьлед прабівае, прамень разсявае
І будзіць надзею кругом.

І кліча пры працы, як вышэй узьняцца
Над цемру балота туман, —
І крыльлі разьвінуць, сон вечны пакінуць
Ад родных лясоў і палян.

Аж дзівяцца госьці, магутнае штосьці
Стала з дзірванаў ўзрастаць.
Як з падзямельля, з балота із зельля
Край наш пачаў ускрасаць.

Усіх нас паклікала справа вялікая
І трэба, браты, працаваць.
Дык дружна мы станем да працы-змаганьня,
Бо нечага болей чакаць.

**А. К.**

Ад. Станкевіч.

8)

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

*З нагоды 70-лецьця сьмерці К. Каліноўскага, рэд. „Мужыцкай Праўды“ (†1864) і 50-лецьця „Гоману“ (1884).*

§ 2. „Внутреннее обозрѣніе“.

Наступны артыкул „Гоману“ — „Внутреннее обозрѣніе“ пасьвячаны, як сам загаловак яго кажа, агляду ўнутранай царскай палітыкі ў Беларусі і так-жа для нас дужа цікавы. Гаворыцца ў ім аб тэй шалёнай русыфікацыі нашага краю, якую праводзілі ў нас розныя так званыя начальнікі краю — віленскія генэрал-губэрнатары.

Агульны зьмест гэтага артыкулу выражаны ясна ў падзагалоўку: „Новый начальник края. Искорѣненіе полонизма. Пробужденіе народнаго сознанія. Безцеремонность продажнаго писаки и новые всходы“. Бліжэй зьмест выглядае ў скарочаньні гэтак.

— Тотлебен*) з свайго становішча аткліканы. І добра. У сваей тупой стараннасьці ён ня ведаў, што і як „искоренят“. Прыехаў новы. Сказаў мову, якіх у нас за апошніх 20 гадоў гаварылася многа. Усе яны прыракалі выкараняць у краі нашым польскасьць і насаджаць расейскасьць. Мэты аднак сваей гэныя начальнікі краю не дапіналі, бо рабілі гэта пераважна грубой сілай. Асабліва ў гэтым адзначаўся Тотлебен, аб якога дзейнасьці „нѣкоторое понятіе может дать хотя бы корреспонденція из Вильны, помѣщенная в № 1 нашего органа“. Пасьля Тотлебена прышоў Коханов, які так-жа сказаў праграмную мову, каторая „дышет солдатским жаром“ і так-жа прыракае праводзіць русыфікацыю краю. Мова Каханова дае нам прадусім паняцьце аб ступені ўлады, „какой пользуются начальники Западнаго Края“. З гэтай мовы мы бачым, што ў Беларусі для вышэйшага начальства „закон не писан“.

Гэткім спосабам русыфікацыя ў нас адбываецца ўжо 20 гадоў, але вынікі яе нэгатыўныя. Сьціраваная проціў полёнізма, яна яго ня толькі ня выкараніла, „но напротив, дала еще большій толчек его развитію. Католичество в этом отношеніи обнаружило необыкновенную живучесть и упорность“. Не давяла да пажаданых мэтаў ані русыфікацыйная палітыка замельная, ані школьная. Агулам — да чаго датыкалася рука абрусіцеляў, тое ставалася няжывым і такім чынам усе спробы русыфікацыі Беларусі на кожным шагу цярпелі няўдачы, не знаходзячы для сябе адпаведнага грун-

---

*) Віленскі генэрал-губэрнатар, †1884.

ту. Ясная рэч, што ўся культурная барацьба, якая вядзецца ў нашым краі, датыча прадусім інтэлігенцыі; народная-ж гушча, замкнуўшыся сама ў сабе, астаецца бадай роўнадушнай і глухой да тых спроб, якія над ей хочуць даканаць абедзьве староны, што вядуць векавую барацьбу за панаваньне над гэтай гушчай. „Нарсд не воспринимает всего того, что ему навязывают, а ревниво оберегает от чужих вліяній основныя черты своего быта, ожидая того момента, когда откроется возможность для широкаго развитія всѣх начал его жизни“. Але гэта можа наступіць толькі тады, калі перастане барацьба верхніх слаёў і будзе магчымасьць шырокага развою народнага жыцьця. Тымчасам урад да народу тасуе толькі сілу. Гэткае палажэньне зачынае выводзіць з цярпеньня сялян-беларусаў, каторыя гэтулькі працярпелі ў працягу ўсяго гістарычнага жыцьця.

Праўда, зямельная рэформа 1863 г., а так-жа абяцанкі розных палёгкаў і прывілеяў праз некаторы час у народзе падтрымоўвалі надзею на расейскі ўрад, але пасьля таго, калі ні адно з прырачэньняў урадавых ня было споўнена і калі беззямельным бедняком прышлося ўміраць з голаду, аб ранейшай сваей пашане да ўладаў народ стаў забываўцца і адносіны яго да гэтых уладаў сталі штораз-больш завастрацца Доказам гэтага служаць сялянскія спраціўленьні проціў улады ў розных мясцох Беларусі. Да цара народ адносіцца так-жа няпрыхільна. Урад-жа на ўсё мае адно лякарства — ўціск, якім яшчэ больш павялічвае цяжкое палажэньне народу,

Бяручы гэта ўсё пад увагу, няможна ня цешыцца з выступленьняў тых людзей, што імкнуцца сказаць слова праўды аб Беларусі. Такім напр. ёсьць „Первое письмо о Бѣлоруссіи“ ў загранічным „Вѣстникѣ Народной Воли“. Да гэткіх выступаў можна залічыць нядаўна паявіўшаеся „Посланіе к Землякам Бѣлоруссам“, у якім дужа ўдатна апісаны здарэньні нашых дзён. Але ўсё гэта толькі спробы. Больш акуратна гэта зробіць наш орган, які сябе пасьвяціў выясьненьню крычачых патрэб нашага няшчаснага краю. —

Далей у „Гомане“ йдзе аддзел карэспандэнцыяў, з якімі хоць коратка належа нам так-жа пазнаёміцца.

### § 3 „Корреспонденціи“.

Аддзел карэспандэнцыяў „Гомана“, зразумелая рэч, менш цікавы. Аднак для поўнасьці нашага з гэтай часопісяй знаёмства, збольшага пазнаёмімся і з іх зьместам.

*З Дзісенскага пав.* Завастраюцца адносіны зямельныя ня толькі між абшарнікамі, але і духавенствам. Так напр. сяляне арэндатары царкоўнай зямлі ў Друі, ня гледзячы, што срок арэнды скончыўся яшчэ ў 1882 г., зямлі не пакінулі, сілай асталіся ў фальварку, карысталіся ім далей

і дамагаліся бяссрочнай арэнды. Знача, „понятіе о собственности в народѣ еще не выдѣлилось окончательно из понятія владѣнія и что право по земельной собственности еще до нынѣ у нас не кристализировалось и не отвердѣло в опредѣленных формах*).

*З Слуцкага пав.* Сяляне в. Затур'е вялі спор з Радзівілам за пасьбішча. Суд прысудзіў у карысьць Радзівіла. Калі-ж прышло да разгранічэньня, сяляне сілай да гэтага не дапускалі. Прыехала рознае начальства, а сяляне стаялі пры сваём. У выніку было чал. 20 арыштаваных. Сяляне ўрэшце ўступілі.

*З Менску.* Народ распраўляецца з сваімі эксплёататарамі. У сяле Залядзе, Слуцкага пав., багацела коштам сялян сям'я Александровічаў, прыблудаў. Дзеля сваіх мэтаў карысталіся яны крадзежай, ашуканствам, разбоем і грозьбамі. Дастаўшы, так-жа грозьбай, ад абшарніцы лесу, Александровічы сталі гнаць сялян на работу дзеля дастаўкі дрэва. Сяляне ўзбурыліся, акружылі дом Александровічаў і разбурылі яго, а трох Александровічаў забілі. Будзе суд. Пэўне лагодны, бо — між іншым — сяляне прасілі ўлады выселіць ад іх Александровічаў, але дарэмна.

*З Пецярбургу.* Вышэйшае начальства з скуры лезе, каб „предупредить развитіе „крамолы" і „вольнодумства", але яму гэта не ўдаецца. Рэвалюцыйнасьць разьвіваецца. Усьцяж адбываюцца арышты, часта без разбору правых ці левых. З палітычнымі вязьнямі абходзяцца дужа дрэнна. Газэты і журналы закрываюцца. З грамадзкай думкай улады ня лічацца. Бібліятэкі і чытальні абавязваюць падпіскай не выдаваць кніжак некалькі сот лепшых і найбольш популярных аўтараў. Гэта родзіць вялікую патрэбнасьць літаратуры нелегальнай. Астаецца толькі пажадаць, каб паявіліся Гэрцэны, каб сталі выдавацца такія популярныя органы, якім быў „Колокол". У верасьні вышаў нелегальна № 10 „Народнай Воли", у якім варта адзначыць адказ Выканаўчага К-ту партыі „народавольцаў" польскім соцыялістам, рэвалюцыйнай партыі „Пролетарыят". „В этом отвѣтѣ с большою опредѣленностью высказвается взгляд исполнительнаго К-та на національную независимость, при чем этот послѣдній вовсе не находит в самостоятельном существованіи революціонных партій отдѣльных народностей бесполезнаго дробленія и несовмѣстимости с найбольшей интенсивностью борьбы против общаго врага: обезпеченіем этой интенсивности должен служить тѣсный союз между партіями, который, по словам Исп. Комитета, в интерессах революціи столь-же необходим, как і точная их самостоятельность".

---

*) Аўтар гэтак цьвердзячы мыляўся, бо сяляне не затым на чужой зямлі сядзелі, што ня мелі пачуцьця ўласнасьці, а іменна затым, што такое пачуцьцё мелі і што такое іх пачуцьцё было часта і груба крыўджана і гвалчана. А. С.

Урад робіць сваю работу, а рэволюцыянэры сваю. Прыдзе час, калі няволі настане канец. —

Пасьля карэспандэнцыяў ідзе вялікі неазаглаўлены артыкул, які так-жа прыносіць нам шмат чаго цікавага і з якім так-жа мусімо пазнаёміцца.

---

## Беларусы ў Латвіі.

У зьвязку з нацыянальнай палітыкай у Латвіі, пасьля перавароту 15 траўня с. г., у жніўні месяцы былі зьліквідаваны ўсе меншасьцёвыя аддзелы пры міністэрстве прасьветы, у тым ліку і беларускі, і заменены так званымі рэфэрэнтамі.

На пасаду рэфэрэнта беларускіх спраў прызначаны грам. П. Журкоўскі, які раней кароткі час працаваў у Беларускім Аддзеле і быў інспэктарам беларускіх пачатковых школ. З пачатку 1934—1935 школьнага году таксама зьліквідаваны двухгадовыя дзяржаўныя беларускія вучыцельскія курсы ў Рызе; кіраўнік курсаў грам. Жэрдзі звольнены з пасады, а кіраваньне застаўшымся другім курсам, да канца школьнага году, даручана міністэрствам прасьветы грам. Журкоўскаму.

У Дзьвінскім павеце зачынены Келаўская беларуская пачаткавая школа; аб'еднаны Майшэлаўская і Плейкаўская беларускія школы, злучаны Круманоўская беларуская і Аколіцкая польская школы; Дзьвінскай Школьнай Управай паднята пытаньне аб зачыненьні Гараўскай прыватнай беларускай школы.

У цяжкім стане апынулася прыватная беларуская гімназія ў Рызе, бо Рыжскі самаўрад пастанавіў наагул не даваць прыватным гімназіям ніякіх дапамог. Беларуская-ж гімназія ў працягу свайго 5-ці гадовага існаваньня атрымоўвала ад самаўраду штогод дапамогу ў ліку 8000—9000 латаў, дзякуючы якой і існавала. Без дапамогі яна прысуджана на зачыненьне.

Таксама перад фактам зачыненьня стаіць і беларускі дзіцячы сад т-ва „Беларуская Хата“ ў Дзьвінску, бо ён утрымоўваўся з дапамогі Беларускага Аддзелу, а зараз з ліквідацыяй Аддзелу—спыняецца гэта дапамога.

У зьвязку з пераваротам 15 траўня, былі арыштаваны за прыналежнасьць да левых партыяў і левы ўхіл— кіраўнік Беларускага Аддзелу грам. Пігулеўскі і вучыцялі К. Езавітаў, Барткевіч, Фёдарава і Касьпяровіч. У сучасны момант усе яны ўжо знаходзяцца на волі, але пасадаў вучыцельскіх ня маюць.

Цяжка цяпер жывецца Беларусам пад Латвіяй. Мы аднак верым, што прыдуць лепшыя часы, калі мы разам з усім беларускім народам зможам далёка шпарчэй працаваць пры адбудове сваей Бацькаўшчыны.

**Беларус з-пад Латвіі.**

## ТОЛЬКІ УЧОРА...

Толькі учора, здаецца, прыгожа
Сонейка зьзяла, вітала зямлю,
Толькі учора, здаецца, вясёла
Птушачкі песьні пяялі ў гаю.

Сёньня ўжо цёмныя, цяжкія хмары
З даляў у далі па небе плывуць,
Сёньня ўжо сумныя думкі, як чары,
Сэрца скавалі, балюча ўздыхнуць.

Толькі учорайка мне, як дзіцяці,
Сьнілісь салодкія сны пра жыцьцё,
Толькі учорайка мог шчасьце пазнаці...
Сёньня-ж у момант прапала усё. **Малады Дубок**

## RAŃNIAJ VOSIEŃNIU.

Raźviesiła vosień purpurnyja šaty,
Svaje karmazyny pa drevach, kustoch;
Pa ich šmarahdova-zialonych listoch
Rassypała zołata skarby bahaty.
Nakinuła kvołyja srebnyja sietki
Na pole zhalełaje j vysachšy łuh,
Nad imi kałyšycca lebiedziaŭ puch —
Pływie ŭ zaruniełyja ruńniu paletki.
Pa śvianamu niebu, pa sini vysokaj
Kudłatyja chmarki paŭzuć łancužkom,
To stanuć na śviani ŭ zadumie hłybokaj;
Ukradkam ab niečym šapoča z listkom
Toj vietryk —prybłuda z krainy dalokaj —
I čuć padychaje svaim chaładkom. *Uład-Inicki.*

## VASIEŃNI NASTROJ.

Toŭpy chmar varušylisia na niebaschile
I pasuvalisia hrozna pachodam pavoli.
Usiudy-ž pustki na poli i čornyja honi.
Ptuški vandroŭnyja rodny naš kraj apuścili...
Zašumieli šalestam strojna-pryhoža biarozy, —
Im bor adhuknuŭsia,homan pasłaŭšy ŭ viaršyny sosien.
Raspłyłasia pavodkaju sumnaja, žoŭtaja vosień;
Z lesu załatyja kapali chaŭturnyja ślozy;
Da łužaŭ ŭzirajucca klony, biarozy, asiny;
Viecier rumiany ubor ich sa ździekam apošni ździraje;
I lohka z zdabytkam na polnych abšarach hulaje,
Zhartajučy vosieni zołata ŭ hrazkija ravy, kalainy...
Byccam ruki papaŭšych u pałon žaŭnieraŭ
Pa lesie styrčać siam-tam hołyja drevaŭ haliny;
Hordyja jołki pašumvajuć ŭ tohach svaje zielaniny,
Dumnyja z ciopłaj adziežy i harnalotnych manieraŭ.
*J. Vilkoŭščyk.*

# 30-я ўгодкі грамадзкае працы Цёткі.

Сёлета мінула 30-ць гадоў, як шырокаведамая беларуская паэтка-рэвалюцыянэрка Цётка, праўдзівае прозьвішча якой Алёізія Пашкевіч-Кейрыс, узялася за беларускую вызвольна-грамадзкую працу. Сьв. п. паэтка паходзіла з Лідчыны. Грамадзкую сваю працу пачала ў 1904 г. пасьля сканчэньня гімназіі, заклікаючы гарачымі прамовамі на публічных мітынгах работнікаў арганізавацца ў Беларускай Сацы-



**Цётка**

ялістычнай Грамадзе. Апроч Вільні, працавала Цётка для беларускай адраджэнскай справы ў Менску, Петраградзе, Львове і агулам усюды, дзе толькі магла.

Літэратурная творчасьць паэткі-рэвалюцыянэркі, падпісваная псэўдонімамі Цётка Крапіўка і інш., ведама перад усім з бачын „Нашае Нівы“ і зборнікаў вершаў: „Скрыпка беларуская“ і „Хрэст на свабоду“. Паводле расказаў сястры Цёткі, якая ня так даўно адведала рэд. „Шлях Моладзі“ і якая мае намер выдаць усе творы Цёткі, многа яшчэ недрукаваных рукапісаў знаходзіцца ў мужа паэткі, каторы прабывае цяпер у Літве.

Трэба ведаць так-жа, што Цётка была рэдактаркай здаецца першай беларускай часопісі для беларускае моладзі, выдаванае ў Менску ў 1914 г., п.н. „Лучынка“, каторай сёлета прыпадалі 20-тыя ўгодкі выхаду ў сьвет.

Памярла Цётка ў 1916 г. ратуючы сялян ад пошасьці тыфусу. Пахавана ў садзе Новага-Двара ў Лідчыне.

Памяць аб слаўнай паэтцы-рэвалюцыянэрцы ў Беларускім народзе ніколі не загіне.

**Н.**

---

## ВОСЕНЬ.

Восень чорная... Дождж за вакном...
Дождж халодны, пануры, дробны...
Стукаюць кроплі па шыбах.
Вецер галосіць жалобна
І халодзіць у жылах застыўшую кроў...
Дождж за вакном...

Ноч — і зор ня відаць у нябёсах;
Хмары цяжкія неба пакрылі,
А у ночы распушчаных косах
Плача неба васеньнім дажджом...
Плача Маці-Зямля пад вятрамі
Там, у шэрых навісшых туманах,
На мінуўшчыны слаўнай магіле,
Над калыскай прадажных сыноў...

Ці ня чуеш, як цяжка ўздыхаюць
Зямлі-Маці скрываўлены грудзі?
Ці ня чуеш, як жаласна клічы лунаюць:
„Прабудзецеся, людзі!“? ..

Восень чорная... Дождж за вакном...
Грозна клубяцца цяжкія хмары...
Сум бяздольны і боль пякучы
Лёг на полі пустым пад дажджом...

**А. Бярозка.**

# 25-cilećcie hramadzkaje pracy Hramadzianki Ludviki Vojcikavaj.

(*1909—1934*).

Sioleta ŭvosieni minaje 25 hadoŭ hramadzkaje pracy Hramadzianki Ludviki Vojcikavaj.

Pavažanaja Jubilatka pachodzić z dvara Alchoŭniki ŭ Horadzienščynie, z domu Sivickich Asoba Jaje viedama biełarusam pad tryma proźviščami: dziavockim — Sivickaja, pa pieršym mužu Šantyrava i pa druhim mužu — ciapierašnim proźviščam Vojcikava.



Svaju hramadzkuju pracu pačała Hram-ka Ludvika u 1909 h., u Horadni, budučy jašče vučanicaj rasiejskaj himnazii, u katoraj biełaruskaja moładź, pad kiraŭnictvam Ks. Fr. Hrynkieviča, zasnavała ŭ hetym časie nielehalny „Hurtok Horadzienskaj Biełaruskaj Moładzi", ab pracy jakoha pisali my ŭ № 11 (71) „Šl. M.". Hram-ka Ludvika źjaŭlałasia jakraz adnym z pieršych jaho zakładčykaŭ i była pieršaj biblijatekarkaj hetaha hurtka. Pracujučy ŭ hetym hurtku da 1914 hodu, paznajomiłasia Jana bližej z biełaruskim adradženskim rucham i praz uvieś čas svajho žyćcia brała ŭ im čynny ŭdzieł. Budučy ŭ HHBM, pačała Jana pisać vieršam i prozaj, źmiaščajučy niekatoryja svaje tvory ŭ vydanaj hetym hurtkom adnadnioŭcy „Kołas Biełaruskaj Niwy". U hetym-ža časie pierakłała Jana na biełaruskuju movu z polskaj nastupnyja pjesy: „Pastušok", „Strachi" i „Varožba cyhanki".

U 1914 hodzie Hram-ka Ludvika prabyvała ŭ Varšavie, dzie skončyła harodnicka-pčalarskija kursy, a paśla vyjechała ŭ Miensk, dzie naležała da roznych biełaruskich arhanizacyjaŭ i pracavała ŭ T-vie Pomačy Paciarpieŭšym ad vajny, u biełaruskaj stałoŭcy, u prytułku, brała ŭdzieł u kanferencyi Bieł. Sacyjalistyčnaj Hramady, u Usiebiełaruskim Kanhresie, a navat i ŭ biełaruskich vajskovych źjezdach. Pracavała tak-ža i ŭ Radzie Biełaruskaj Respubliki.

Paśla vajny i paśla padziełu Biełarusi, Hram-ka Ludvika prabyvała niejki čas u baćkaŭskich Alchoŭnikach u Horadzienščynie, a ŭ 1923 h. prybyła ŭ Vilniu i tut pracavała da 1929 h. ŭ redakcyjach biełaruskich hazet vychodziačych z Vilenskaje vul. № 12, vydajučy i redahujučy adnačasna časopiś dla biełaruskich dzietak p. n. «Заранка»; supracoŭničała tak-ža ŭ inšych vilenskich časopisiach.

Dziakujučy starańniam Hram-ki Ludviki Vojcikavaj, u 1928 h. paŭstała ŭ Vilni Bieł. Kooper. T-va „Pčała". jakoje isnuje da siańnia i apošnim časam pačynaje pamysna raźvivacca.

Aproč hetaha Hram-ka L. V. pracavała ŭ biełaruskich žanočych arhanizacyjach i supracoŭničała ŭ ukrainskich časopisiach.

Litaraturnaja Jaje praca padpisvanaja praŭdzivym proźviščam, pseŭdonimam (mianiuškaj) Zośka Vieras i inšymi, raskidana pa roznych biełaruskich i ŭkrainskich časopisiach. Z fachovaj pracy vydany „Bataničny słoŭnik" i jość apracavana, ale niavydana jšče, knižka ab lekarskich ziołkach.

Ad 1932 h. Hram-ka L. Vojcikava jość ideovaj supracoŭnicaj „Šlachu Moładzi", a apošnim časam pačała vydavać i redahavać biełaruski miesiačnik pčalarstva i lekarskich ziołak p. n. „Беларуская Борць", a tak-ža redahavać novuju biełaruskuju časopiś dla dzietak p. n. „Praleski".

Hram-ka Ludvika Vojcikava pražyvaje ciapier u Kalonii Kalajovaj kala Vilni i dalej niaŭtomna i ideova pracuje dla adradžeńnia Biełarusi. Asoba Jaje źjaŭlajecca pryhožym uzoram dla našych biełaruskich maładych dziaŭčat, jakija tak mała čamuści prajaŭlajuć svaju dziejnaść.

Naležna acaniajučy zasłuhi Pavažanaj Jubilatki pierad Biełaruskim Narodam, žadajem Joj mnoha, mnoha hadoŭ ščaślivaha žyćcia i pabačańnia svaje Baćkaŭščyny Volnaj i Niezaležnaj Krainaj! *J. N.*

# З выстаўкі вучнёўскае прэсы
## ў Віленскай Беларускай Гімназіі.

Віленская Беларуская Гімназія, паміма няспрыяючых варункаў, дажыла сёлета 15-тых угодкаў свайго заснаваньня. Дзеля ўшанаваньня гэтых угодкаў, Прэсавая Сэкцыя Літаратурна-Гістарычнага Гуртка вучняў гэтае гімназіі сарганізавала ў сваёй залі выстаўку вучнёўскае беларускае прэсы, выдаванае ў працягу апошніх 15-ці гадоў рознымі беларускімі вучнёўскімі арганізацыямі ў Вільні. Выстаўка гэта была якбы справаздачай выдавецкае працы беларускае моладзі і да пэўнай меры люстрам, у якім можна было паступова прыглядацца да настрояў і жыцьця моладзі.

Найпаважней і найсалідней прадстаўлялася сваім зьместам і формай першая выдаваная друкам і рэдагаваная вуч-

нямі Віл. Бел. Гімназіі часопісь беларускае моладзі „Маладое Жыцьцё“. Выходзіла гэта часопісь ад 1921 да 1923 г. Пасьля выходзілі наступныя часопісі: „Усход“ (2 нумары, 1923 г.), „Рунь“ (6 н., 1925 г.), „Наперад“ (здаецца 1 нумар з 1926 г.), „Покліч“ (1 н., 1927 г.), „Рэха“ (5 н., 1927 г.), „Золак“ (2 н., 1928 г.), „Васілёк“ (2 н., 1928 г.), благой памяці „Вучнёўскі Звон“ (4 нумары друкам з 1930 г.), „Пралескі“ (1 н. з 1932 г.) і сьцен-газэта, якое вышла сёлета 17 нумароў п. н. «Покліч».

Выдаваныя гэтыя часопісі былі пераважна на шапірографе. Лік ік, як бачым, вельмі вялікі, жывучасьць кароткая, што сьведчыць аб нястачы сталасьці і цягласьці ў вучняў і аб няспрыяючых варунках да гэтае працы.

Цікава ведаць, што закладчыкамі выдавецтва „Рунь“, паміж іншымі, зьяўляліся А. Салагуб, каторы прабывае цяпер у СССР і каторага савецкія крытыкі называюць пралетарскім паэтам Зах Беларусі, Р. Семашкевіч, які ў Маскве славіцца, як „русскій“ мастак і Барыс Кавэрда, каторы ў 1927 г. у Варшаве забіў савецкага пасла, камісара Войкава, і цяпер сядзіць у польскім вастрозе. Нявінны гэты жыцьцёвы траф можа калі-небудзь вельмі кепска адбіцца для тых, што цяпер знаходзяцца ў Саветах, а магчыма, што ўжо адбіўся, бо аб А. Салагубе ходзяць нявыразныя чуткі.

Зьмест апошніх нумароў „Покліча“, часамі канфіскаваны, выяўляе сучасныя радыкальныя пагляды моладзі і шмат вельмі прыгожых незалежніцкіх парываў. З літаратурнае творчасьці зьмяшчанае ў іх заслугоўваюць на ўвагу вершы Расы.

У адным з нумароў „Покліча“ вучні адкрыта наракаюць на сваіх вучыцялёў за тое, што яны не ўзгадоўваюць іх у духу беларускім, да чаго моладзь цэлай душой імкнецца і даходзіць нават да вельмі добрых вынікаў. Сьведчыць аб гэтым стойкая абарона некаторымі вучнямі нацыянальных правоў беларускага народу, да каторай дайшлі яны самі праз сябе, пераканаўшыся, што сапраўды нясе беларусам камсамол і „Straż Przednia“.

Дзеля гэтага сьмеем думаць, што беларуская вучнёўская моладзь Віл. Беларускае Гімназіі ня пойдзе на павадку беларуска-польскае ўгоды, ды патрапіць аканчальна адагнаць ад сябе featureрознага роду правакатараў, якія стараюцца ўцягваць яе ў ком-ячэйкі і падводзіць пад паліцыйны абух, а здабываючы асьвету будзе імкнуцца, каб стацца сапраўднымі стойкімі барацьбітамі за лепшую долю беларускага народу, за незалежнасьць Беларусі.

Моладзь павінна паказаць ворагам бел. народу, што яны, купляючы некалькі беларусаў, ня змогуць купіць усяе моладзі дэмагогічнымі абяцанкамі і прыгожымі слаўцамі.

Я—к.

# Listapad.

Listapad — 11-ty miesiac hodu. U rymlanaŭ — november; franc. — novembre; anhl. i niam. — November. U respublikanskim kalendary — brumaire — miesiac imhły.

U słavianaŭ: starasłavianski nazoŭ — hrudzień; serbski — studzieni; ras. — nojabr; česki i polski — listopad; ukr. — łystopad, padołyst.

Biełaruski nazoŭ listapad — pachodzić ad taho, što ŭ hetym miesiacy z drevaŭ i kustoŭ apadaje apošniaje liścio — „list apadaje“ (padhadyvajecca „apošni“). Inšyja tłumačać hety nazoŭ tym, što ŭ m-cy listapadzie drevy, kusty zvyčajna stajać hołvmi, z apaŭšym liściom — „list apaŭ.“

U siaredniavieččy Karol Vialiki (768—814 h.) daŭ listapadu nazoŭ Vindmonat'a — miesiaca viatroŭ.

Jak u pahancaŭ, tak i ŭ chryścijanaŭ m-c listapad byŭ paśviačany pamiaci niabožčykaŭ. U pahancaŭ heta vyjaŭlałasia ŭ formie symboličnych abradaŭ, u chryścijanaŭ-ža—u formie adumysłovych nabaženstvaŭ u dzień h. zv. „Ʒadušak.“ Ich karotkaja historyja takaja.

Dla ŭšanavańnia razam „usich“ bahoŭ jašče pierad Nar. Chr. u Rymie była ŭviedziena asablivaja ŭračystaść, a za časoŭ Oktavijana Aŭhusta ŭ češć ich była pabudavana śviatynia — Panteon. Kali z bieham času Rym staŭ chryścijanskim i pamiać ab pahanstvie zusim zaciorłasia, dyk papież Banifacy IV paśviaciŭ Panteon 13 maja 609 h. i ŭvioŭ śviata Ŭsich Mučanikaŭ. Paźniej papież Ryhor IV (828—844h.) na prośby francuskaha karala Ludvika Pabožnaha ŭvioŭ śviata Usich Śviatych, skasavaŭšy śviata Ŭsich Mučanikaŭ. Dla ŭračystaści novaha śviata byŭ vyznačany dzień 1 listapada. Spačatku novaja ŭračystaść śviatkavałasia tolki ŭ Frankonii, ale z časam raspaŭsiudziłasia pa ŭsich chryścijanskich ziemlach. U X vieku abbat klunijskaha manastyra Odylion u nastupnym dni pa ŭračystaści Ŭsich Śviatych pačaŭ dadavać nabaženstvy za niabožčykaŭ, katoryja pavodle navuki r.-katalickaha kaścioła čakajuć u čyscy na złučeńnie z usimi śviatymi ŭ niebie. Z klunijskaha manastyra hety zvyčaj pastupova raspaŭsiudžvaŭsia pa ŭsim kaściele i ŭ XIV vieku byŭ pryniaty ŭsim katalickim śvietam, jak »Dzień Zadušny“ — „Zaduški.“

Listapad pa kalendaru ličycca jšče vasieńnim miesiacam. Ale na Biełarusi ŭ listapadzie amal zaŭsiody byvajuć marazy i vypadaje śnieh, tak, što ŭstanaŭlajecca ćviordaja sannaja daroha. Dziela hetaha listapad moža być zaličany pierachodnym miesiacam ad vosieni da zimy.

Za listapad ubyvaje dnia na 1 h. 42 minuty.

U narodnym kalendary:

U listapadzie hoła ŭ sadzie. Kali ŭ listapadzie hrymić— rataj viasnu śnić. Pryšoŭ listapad. karmi skacinku, brat. Kali

ŭ listapadzie lod na rečcy stanie hrudami, buduć i ŭ c' lebie hrudy. Listapad śniehu naduje — chleba prybudzie, a vada razaljecca—siena nabiarecca. U listapadzie kładzi kapustu ŭ kadzi.

1. Pa Ŭsich Śviatych—choład dla ŭsich. Usie Śviatyja jak zasvavolać, dyk drevy darešty aholać.

8. Na śv. Tadora poŭnaja kamora.

9. (S. s.). Z matrony stanovicca zima.

11. Z Marcinavaha dnia pačynajecca zima.

14(S.s.). Zapusty na Pilipaŭku — pačynajucca viačo rk i popradki. Z Pilipaŭki vaŭki źbirajucca.

22 (S.s.). Prakop pa śniehu stupaje, darohu kapaje.

24. Pryšła Kaciaryna, prydzie i piaryna.

26. Vasieńni Jury.

30. Andreja — dziaŭčaty hadajuć: „śv. Andreju, kanapielki sieju, daj mnie znać, z kim budu spać?“

— U subotu pierad Pilipaŭkaju — apošnija dziady.

*U. Paŭ—ski.*

# Alehorja.

...Listki apadali z drevaŭ, ptuški adlatali ŭ ciopłyja krai, babskaje leta snavałasia na iržyščach. U pavietry dryžeła biez—lič strun. Niavidomyja ruki hrali na ich pieśniu vasieńniaj zadumy, viečnuju pamiać bujnamu adćvitańniu.

Zbližałasia vosień, a z joj para daždžoŭ, viatroŭ, bałot.

Biedny listok taksama dumaŭ ab hetym: voś, dźmuchnie zaraz chałodny viecier, padchvacić jaho i zakinie daloka. A jamu tak dobra było pamiž svaimi. Ros jon u łahčyncy; usie jaho lubili za viasiołaść, žartullivaść, bo nikoli nie paddavaŭsia smutku, nia dumaŭ pra budučyniu. Jamu zdavałasia, što viečna budzie zialonieńkim i viasiołym, viečna budzie maładym.

Až pryšła vosień. Listok nie paznavaŭ siabie. Zieleń u im niejdzie hinuła, pačali vystupać kolery čyrvony i žoŭty. Listok ciešyŭsia, bo pabačyŭ siabie jšče pryhažejšym. Ale nie nadoŭha: pačuŭ jon, što kroŭ z žyłaŭ uciakaje, što pačynaje słabieć; pačuŭ staraść, a razam z hetym pryšła śviedamaść śmierci. Strašna...

Dźmuchnuŭ chałodny vasieńni viecier, sarvaŭ z dreva listok i panios jaho daloka, daloka ad rodnaha dreva, ad tavaryšaŭ—listkoŭ i kinuŭ u poli čakać na vasieńnija daždžy albo na bieły śnieh. Daždžy adnak nia prychodzili. Sonca pryhoža śviaciła, ale ŭžo nie dla sarvanaha listka.

Dzie-ž jaho tavaryšy, z katorymi razam ciešyŭsia žyćciom? Niama, maŭčać... Moža tak sama ležać adzinokija i čakajuć śmierci? A moža los dla ich byŭ lepšy i pazvoliŭ ča-

kać śmierci razam, a tolki jaho tak daloka i ŭ viečnaje zabyćcio adkinuŭ ad svaich? Sumna i žudasna ŭmirać adzinokamu...

Paviejaŭ uznoŭ vietryk padchapiŭšy listka-sirotu, adnios jaho daloka na paŭdzień i kinuŭ u horach, pamiž druhimi listkami, a sam palacieŭ dalej, śpiavajučy svaje sumnyja vasieńnija pieśni.

Listok upaŭšy zapluščyŭ vočy, serca jamu zabiłasia z radaści. Dumaŭ, što voś padlatuć druhija listki, pryvitajuć jaho i pačnuć z im hutarku ab jaho kraju, ab bratoch — siostrach, što pryjmuć jaho ŭ svoj kahał i buduć razam čakać svaje śmierci, kab potym dać pažyŭnyja soki patrebnyja da žyćcia novamu pakaleńniu.

Ale pamyliŭsia listok, bo navakoł siabie pačuŭ niaprыjaznyja hałasy:

— A ty chto taki? Adkul ty ŭziaŭsia? Chto ciabie tut klikaŭ? Čaho chočaš ad nas? My ciabie nia znajem, laci sabie dalej. Idzi ad nas — zahamanili dubovyja listy.

— Jak to? Nia znajecie, chto ja j adkul? — adazvaŭsia listok, — ja-ž vaš brat, prylacieŭ z poŭnačy, vun z taho biareźnička, pryhledźciesia dobra.

— Nie, my takoha słabaha nia znajem; nikoli j nia čuli pra jaho. Idzi ad nas.

I zapłakaŭ listok. — „Čamu-ž bo takaja maja dola? Adarvali mianie ad svaich i zakinuli siudy. A tut mnie kažuć, što nia znajuć, chto ja i adkul. A moža tolki nia chočuć znać?

— Nia znajecie chto ja i adkul? — pačaŭ listok, — dyk ja vam prypomniu.

I pačaŭ listok raskazvać pra svoj kraj, dreva, susiedziaŭ, žyćcio i paradki, a tyja słuchali i kazali:

— Ale-ž vaš kraj i žyćcio padobnaje da našaha.

— Tak, tak, — adkazvaŭ toj listok, — dyk čaho-ž vy mianie prahaniajecie? Nam treba łučycca, a nie dzialicca; treba ŭzajemna siabie paznavać. My pra vas bolš viedajem, jak vy pra nas.

— Nu tak, — adkazvajuć, — heta zrazumiełaja reč: vas tak mała i tak mała ab sabie daicio znać.

I hutaryli ciapier užo listy ŭ zhodzie pra svajo žyćcio, pra supolnych vorahaŭ, ab ździekach złych viatroŭ i mroili supolna ab tym, jak śmierciu svajeju daduć pačatak žyćciu, novamu, volnamu ad pamyłak prošłaści, družnamu, mocnamu, niepieramožnamu.

Lvoŭ, 10.X.34. *„mita."*




## ВОСЕНЬ.

**Восень маркотная. Цёмна-панурыя**
**Хмары па небе плывуць,**
**Ветры васеньнія, ветры халодныя**
**Ціха шумяць і гудуць.**

**Дрэў лісьця зжоўклі і песьні замоўклі,**
**Сонца завесіў туман.**
**З шумам вароны крычаць на ўсе тоны,**
**Ўзьнёсься над імі груган.**

**Сонца каханае, дзе ты, жаданае?**
**Ціха. Адказу няма.**
**Думкі таёмныя, радасьць нязнаная,**
**Шэпчуць: „зноў прыдзе вясна“.**

**Я. Гр.**

---

# Z čaho i jak robicca papiera?

Časta prychodzicca nam mieć styčnaść z papieraj, adnak nia ŭsie my zvaročvajem uvahu na toje, z čaho i jak jana robicca.

Papiera—heta jość masa drobnieńkich źbitych raścinnych vałakoncaŭ. Vyrablajecca jana z anučaŭ, sałomy abo z dreva. Vybranyja na papieru šmaty pieradusim myjuć, paśla ŭ specyjalnym młynie raździrajuć ich na drobnieńkija vałakoncy i pierarablajuć na hustuju masu, padobnuju da ciesta, jakuju paśla pry pomačy gazu chlorku jašče bolš razdrablajuć i nadajuć joj vyhlad zusim tonieńkaj masy, z jakoj pa vysušeńni atrymlivajem papieru pryhodnuju tolki da pakavańnia.

Kab možna było na hetaj papiery pisać, napuskajuć na jaje klej i kładuć pad prasu, paśla krojać na drobnyja arkušy.

Papiera da rysunkaŭ paŭstaje sklejańniem niekalkich arkušoŭ lepšaj cienkaj papiery i paśla adprasavańniem jaje.

Usio heta robicca mechanična i vielmi chutka.

## HETA RENEHAT...

Chto pra kraj zabyŭsia rodny,
Nie paznaŭ, chto brat,
I u stroj zašyŭsia modny —
Heta renehat.
Chto ŭ viaku svaim nia viedaŭ,
Z jakich vyjšaŭ chat,
Nie paznaŭ svaich susiedaŭ —
Heta renehat.
Chto ŭ svaju narodnu stravu
Liŭ atruty jad,
Zatruvaŭ vyzvolnu spravu —
Heta renehat.
Chto dadaŭ svajmu narodu
Bied i licha šmat,
Zabivajučy svabodu —
Heta renehat.

*Lavon Burałom.*

## ВАСЕНЬНІ ВЕЧАР.

Вечар... цёмна... гразь і мокра,
І дождж у шыбы звонка б'е,
І сум васеньні ў хвалдах змроку,
З пустых палёў да хат паўзе.

У вёсцы жудка... пуста... глуха.
Адны вагні ледзь мігацяць.
Ў абняцьцях цемры: радасьць,
І працы неяк ня чуваць. [мука

Лучыны вогненая грыва
Кладзе на сьцены ценяў сплёт.
Шаўковы лён прадзе дзяўчына,
Вурчыць вясёла караўлот.

Вячэру варучы ля печы,
Ваюе маці з чапялой,
А на пяколку дзед-старэчы
Частуе лыкам лапаць свой.

Ката запрогшы едуць дзеці,
Крычаць вясёла малышы,
А бацька дзе?.. Ды той з асецяй
Клапоты мае па начы.

Але ня трэ' спазорам верыць,—
То-ж рэч знаёмая даўно.
Пад хвалдай змроку ў хатах шэрых
Бруіць рухлівае жыцьцё.

Пад сум васеньні б'е вясёла
Жыцьцё у хатах мужыкоў.
Нуда, нуда—ты незнаёма
Там, дзе бруіць ад працы кроў.
**М. Машара.**

---

# Васеньняя ноч.

Панурая цёмная васеньняя ноч... Нідзе зорачкі ня відаць, толькі хмары, як ведзьмы, плывуць адна за аднэй нізенька над нашай зямелькай. Дажджавыя буйныя каплі звонка барабаняць у маленькія шыбы вясковых хатаў. Дзіка шумяць дрэвы ад магутнае начное буры. Здаецца мільёны нудных галасоў бяздольных людзей зліліся ў адзін тон...

Глуха кругом... Сьпіць зморany вясковы люд пасьля цяжкое працы. У гэты час забывае ён аб усіх сваіх нястачах, трывогах і няшчасьцях і ня ль'е горкіх сьлёз, бо шырокія крыльля васеньняе начы ўсё гэта ўзялі да сябе. Васеньняя ноч сама за ўсіх плача, быццам адчуваючы ўвесь боль пакрыўджанага народу. Ад яе буйных сьлёзаў мігам макрэе зямля, напаўняюцца рэчкі і вазёры. Ад яе дзікога стогну трашчаць дрэвы і пахілыя будынкі. Сумная сапраўды і трывожная ноч познае васеньняе пары... **Алесь Адзінокі.**

## ДА ПТУШАК НА АДЛЁЦЕ.

Мілыя птушачкі, зноў адлятаеце
З краю радзімага ў даль,
Зноў вы бяз песень нас пакідаеце,
Зноў будзе мучыць нас жаль?

Не адлятайце вы, птушкі пявучыя,
Сумна нам будзе бяз вас,
Хто-ж успакоіць нам сэрцы балючыя,
Хто-ж весяліць будзе нас!?

**Алесь Адзінокі.**



# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Камісія Помачы Беларускай Студэнскай Моладзі пры Б.Н.К.** На апошнім агульным сходзе Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні дня 28 кастрычніка сёлета сарганізавана Камісія Помачы Беларускай Студэнскай Моладзі пры БНК. У склад Камісіі ўваходзяць: інж. Л. Дубейкаўскі — старшыня, кс. др. Ст. Глякоўскі — скарбнік і мгр. Я. Шутовіч — сэкрэтар. — Кожны беларус, якому дарагой ёсьць справа ўзгадаваньня беларускае моладзі — будучыні Беларусі, павінен пасьпяшыць з матэр'яльнай помаччу для яе, высылаючы ахвяры на адрас скарбніка Камісіі — Вільня, Завальная вул. 1—3.

**Новыя „краскі“.**—Пачаткавыя польска-беларускія школы ў м-ку Шаркаўшчыне і ў в. Савіцкіх каля Шаркаўшчыны з пачаткам сёлетняга школьнага году ператвораны на школы чыста польскія.

— Маладэчанскае паветавае староства выкасавала з свайго рэестру гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў м-ку Радашкавічах і ў в.в. Крыніца і Дуброва.

—Навагрaдзкае паветавае староства адмовілася залегалізаваць гурток Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры у Дэлятычах.

Вось доказы „свабоды культурнае працы“ для беларусаў у сучаснай Польшчы. Што-ж на гэта ўсё польскія „дэмократы“ з ББ, якія так часта трубяць аб „роўнасьці, вольнасьці і брацтве“? А яшчэ цікавей, што думаюць аб гэтым іх „белардруські“ падгалоскі, што рыхтуюцца да бэбэкаў «у сваты»?

**Задушкі.** На сёлетнія Задушкі (2 лістапада) за прыкладам мінулых гадоў віленскія беларусы адведвалі магілкі беларускіх паэтаў на Россе. Над магілкамі К. Сваяка і Ядвігіна Ш. беларускі касьцельны хор прапяяў некалькі бел. песьняў, а моладзь злажыла вянкі.

**Ажыўленьне на беларускай выдавецкай ніве.** — Нядаўна вышаў з друку № 1 „Пралесак“ — часопісі для беларускіх дзетак. Часопісь гэта выглядае вельмі міла і зьмест яе багаты і вельмі добра падабраны. Ёсьць у ёй і вершыкі і расказікі і жарты і загадкі. Друкуецца гэта часопісь у большасьці лацінкай, але ёсьць так-жа і гражданка. Бацькі беларускіх дзетак павінны не пашкадаваць 1 зл. у год і выпісаць для іх „Пралескі“. Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 1—3.

—Пачынаючы ад студня м-ца 1935 г. мае выходзіць беларускі літаратурна-навуковы часапіс „Прамені“. Будзе ён выходзіць раз у тры месяцы ў разьмеры 64 бачын з каляроваю вокладкаю. Адна кніжка будзе каштаваць 1 зл. Падпіска на год 4 зл., на паўгода 2 зл. Выдавацца будзе пры Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры. Адрэс рэдакцыі: Вільня — Завальная 1—3.

Апроч выходзячых беларускіх рэлігійных, гаспадарчых і палітычных часопісаў і апроч „Праменьняў“ маюць быццам выходзіць яшчэ дзьве беларускія літэратурныя часопісі. Маюць так-жа быццам выдаваць сваю часопісь і беларускія абсольвэнты вышэйшых школ. Узнаўляе так-жа выдавецтва „Студэнскае Думкі“ Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні. „Беларуская Борць“ — пчалярскі месячнік, які выходзіць цяпер на павелячы, будзе выдавацца ад новага 1935 г. друкам.

Чуючы аб гэтым нябывалым ажыўленьні на беларускай выдавецкай ніве, мы разам з усімі беларусамі вельмі цешымся і жадаемо, каб яно ня было толькі саламяным агнём і пасьля не наводзіла расчараваньня, а паступова што-раз больш разьвівалася і павялічвалася. Трывалкасьць новых выдавецтваў будзе залежаць ад іхнай вартасьці, аб якой напішам, калі будзем мець перад сабой самыя выданьні.

**Угодкі Слуцкага Паўстаньня.** У лістападзе м-цы сёлета прыпадаюць 14-я ўгодкі беларускага паўстаньня ў Случчыне.

**З СТУДЭНСКАГА ЖЫЦЬЦЯ. З Бел. Студ. Саюзу.** З пачаткам новага 1934-35 акадэміцкага году на Віленскім Унівэрсытэце пачаў сваю працу і Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні. Да гэтай пары прыняў ён больш 10 новых сяброў і наладзіў некалькі імпрэзаў. — 25.X адбыўся інаўгурацыйны вечар з рэфэратамі студ. В. Войтанкі і мгр. Я. Шутовіча. — 26.X адбыўся літаратурны вечар, на якім чытаў сваю новую п'есу абс. Я. Хвораст. — 28.X адбыўся надзвычайны агульны сход сяброў, на якім папоўнены склад ураду БСС, і ў які цяпер уваходзяць: М. Шчорс—старшыня, В. Войтанка—віцэ-старшыня, Трахімовічанка—скарбнік, Смаль — сэкрэтар, Грамыка і Тышкевіч — сябры ураду. На гэтым сходзе пастаноўлена зьмяніць шапкі сяброў Саюзу. Сапраўды, пара ўжо беларускім студэнтам і студэнткам пакінуць насіць польскія „баторувкі“ і насіць шапкі свае арганізацыі. Вялікая пара!

—10.XI ў памешканьні Літоўскага Студ. Саюзу адбылася беларуска-літоўска-украінская студэнцкая вечарына.

**Колькі студэнтаў беларусаў на Віленскім Унівэрсытэце?** Усіх студэнтаў беларусаў на Віленскім Унівэрсытэце афіцыяльная статыстыка налічае 99 асоб. Нам здаецца, што гэта далёка ня ўсе, бо ведаем добра, што на аддзеле мастацтва ёсьць і было апошнія гады аж некалькі студэнтаў, якія сярод беларусаў лічаць сябе беларусамі, а тымчасам статыстыка гаворыць, што на гэтым аддзеле беларусаў зусім няма. Цікава, як гэта вышла і хто гэта мусіць разсьледзіць? Павінен тут хіба-ж нешта сказаць і Бел. Студ. Саюз.

**У Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы** пры Віленскім Унівэрсытэце 4.XI. с. г. адбыўся рэфэрат абс. Я. Хвораста на тэму: „Вясельныя абрады на Палесьсі“, а 11.XI там-жа адбыўся

рэфэрат др. Я. Станкевіча на тэму: „Беларусіка на Агульнаславянскім Зьезьдзе 1934 г.“.

**Вечар.** Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні ў чэсьць прыпадаючых сёлета 30-тых ўгодкаў грамадзкае працы Цёткі ладзіць 20 г. м. у залі Літоўскага Студэнскага Саюзу (Віленская 28—1) вечар.

**Хто кончыў сёлета Віленскі Унівэрсытэт?** З беларусаў сёлета скончылі Віленскі Унівэрсытэт, апрача грам. Я. Шутовіча, грам. Маркевіч (аддзел права), а грам-ка М. Мілючанка атрымала абсолюторыю на аддзеле гісторыі.

**З Б.С.С.Р. Гістарычны факультэт на Менскім Унівэрсытэце.** Нядаўна ў Менску ў Беларускім Унівэрсытэце адбылося ўрачыстае адкрыцьцё новага гістарычнага факультэту.

**Янка Купала і Якуб Колас на волі.** Паводле савецкае прэсы, слаўныя беларускія песьняры Я. Купала і Я. Колас знаходзяцца цяпер на волі ў Менску. Дзеля гэтага рады адклікаем пададзеную ў №10 „Ш. М.“ вестку аб іхным арышце.

# Да В. П. Чытачоў і Супрацоўнікаў „Шляху Моладзі“.

Рэдакцыя „Шляху Моладзі“, імкнучыся пазнаць жаданьні сваіх чытачоў адносна зьместу „Шляху Моладзі“ і задаволіць іх, ветліва просіць усіх В.П. Чытачоў і Супрацоўнікаў адказаць на наступныя пытаньні:

1) Ці падабаецца Вам агулам зьмест „Шл. Мол.“ за апошні 1934 г.

2) Што Вы ўважаеце ў ім за дадатняе, а што за ад'ёмнае?

3) Якія і чые творы і артыкулы Вам падабаюцца, а якія не?

4) Ці варта ў „Шл. М.“ зьмяшчаць аддзел для нашых малодшых, карэспандэнцыі і куток разрывак?

5) Якія Вы хацелі-б бачыць новыя матэр'ялы ў „Шл Моладзі“?

Адказы на пададзеныя пытаньні просім слаць на адрэс рэдакцыі магчыма найхутчэй, каб ужо ў новым 1935 годзе маглі мы адпаведна да жаданьня В.П. Чытачоў укладаць матэр'ялы.

*Рэдакцыя „Шляху Моладзі“.*

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

## Usiačyna.

**Duchovy testament Edissona.** Niadaŭna znojdzieny duchovy testament vialikaha vynachodcy Edissona. U testamencie hetym Edisson vyražaje svaju vieru, što ŭ najbližejšych dziesiaci hadoch vynajdziena budzie novaje žarało tannaj enerhii; asabliva-ž ludzi navučacca vykarystyvać ciapło z nutra našaj ziamnoj kuli i roźnicu temperatury vady ŭ akijanach. U rezultacie źmienicca žyćcio hramadzkaje, palityčnaje, navuka-ž i technika zrobiać vialiki postup upierad. U kancy Edisson zaklikaje ŭsich technikaŭ i vynachodcaŭ nie addavać svaje pracy na patreby vajny.

**Ci čałaviek byŭ naŭpaj (małpaj)?** Amerykanskija i anhielskija vučonyja, paśla adzinaccaci-letniaj navukovaj pracy, u časie jakoj byli dakładna vymieryvanyja škialety ludziej, vykapanyja pry raskopkach u Mezopotamji i paraŭnoŭvanyja z škialetami sučasnaha čałavieka, dajšli da pierakanańnia, što *šeść tysiač hadoŭ tamu nazad čałaviek nia byŭ bolš padobny da naŭpy, jak ciapier.*

**Pradhistaryčnaje vykapališča.** U m-ku Malta, niedaloka Irkucka na Sibiry, vykapana ludzkoje asielišča z prad 20 tysiač hadoŭ. Znojdziena ŭ im zbroja, fihurki z kaściej mamuta i inš. rečy.

**Škialet vialikaluda.** U Ŭschodniaj Indyi kala Dzubbulpara vykapany z ziamli ludzki škialet, vyšynia jakoha raŭniajecca sučasnamu troch-pavierchnamu domu.

**175-tyja ŭhodki naradzinaŭ Frydrycha Schillera** (čytaj Šyllera). Sioleta 10 listapada literatura ŭsiaho śvietu śviatkavała 175-tyja ŭhodki naradzinaŭ słaŭnaha niamieckaha poeta Frydrycha Schillera, jaki źjaŭlajecca adnym z haloŭnych pradstaŭnikoŭ romantyčnaje epochi. F. Schiller byŭ pryjacielem najvialikšaha niamieckaha poeta Goethe i pamior u 1805 h u Wejmary.

**Najvialikšyja samalotnyja vypieradki.** Z pryčyny 100 tych uhodkaŭ załažeńnia m.Melbourne ŭ Aŭstralii, jakaja źjaŭlajecca kalonijaj Anhlii, hetaja apošniaja sarhanizavała samalotnyja vypieradki z Londynu ŭ Melbourne. Brała ŭ ich učaście 12 samalotaŭ roznych dziaržaŭ, jakimi kiravali najsłaŭniejšyja latuny. Pieršaje miesca zaniali anhlijskija latuny Scot i Black, zdabyvajučy naharodu 10.000 funtaŭ šterlingaŭ (1 funt šterling kaštuje ciapier bolš-mienš 25 polskich złotaŭ). Z Londynu ŭ Melbourne, bolš jak 18,000 kilometraŭ, pralacieli jany nad Eŭropaj, Azijaj i akijanami ŭ praciahu 71 hadziny 58 min. Druhoje miesca zaniali halandcy, treciaje jznoŭ anhlijcy. Usim latunom dalacieć da mety nie ŭdałosia, niekatoryja z ich užo na pačatku pierarvali svoj lot.—Vypieradki hetyja byli najvialikšyja, z usich, jakija dahetul dzie-niebudź byli arhanizavany. Sioletnija samalotnyja vypieradki, t. zv. Challenge (Čelindž), katoryja

adbyvalisia i ŭ Polščy i ŭ časie jakich pieršaje miesca zaniali latuny polskija, trudna raŭniać da hetych, bo sama linija, na jakoj adbyvaŭsia challenge, była bolš jak napałovu mienšaja.

**Novyja loty ŭ stratasferu i raskopki ŭ ziamlu.** Loty ŭ stratasferu, nia hledziačy na niaŭdaču amerykancaŭ, ab jakoj my pisali ŭ № 7-8 „Šl. Moł.“, dalej adbyvajucca. I tak u Eŭropie belhijec Cosyns, a ŭ Paŭnoč. Amerycy praf. J. Piccard, (taksama belhijec) na specyjalna zbudavanych balonach padnialisia z navukovymi metami na vyšyniu 16 klm. i paśla ščaśliva apuścilisia na ziamlu.

Belhijski vučony praf. Kairin maje pačać raskopku ŭ hłyb ziamli na 3 abo 4 klm. Dumaje jon, što tam napatkaje novyja słai vuhla. —U Savietach taksama majuć rabić raskopki ŭ hłyb ziamli i adrazu ŭ dvoch miascoch i dumajuć, što adkryjuć tam nasłajeńni zołata, platyny, rtuci i hazy.

**710 klm. na hadzinu.** Italjanski latun Francesco Agello, ustanaviŭ novy rekord skoraści lotu, pralacieŭšy na samalocie ŭ praciahu 1 hadziny 710 klm.

**29,900 asob straciła žyćcio** ŭ praciahu 1933 hodu ŭ Zł. Št. Paŭnočnaj Ameryki ŭ časie samachodavych vypadkaŭ. Aproč hetaha 726,600 asob raniena.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

L. Burałomu. Adzin z Vašych vieršaŭ drukujem u hetym numary, reštu budziem u dalejšych. Prosim pisać čaściej.

Saśnie. Artykuł Vaš nadrukujem, ale až u 1935 h., bo ciapier mała majem miesca.

J. Varakomskamu. Vieršy słabyja i da druku nie padchodziać. Radzim Vam pisać prozaj.

A. Адзінокаму. Усё вельмі слабенькае, друкуем, як бачыце, з вялікімі папраўкамі, выкінуўшы ў вершы цэлыя строфкі, якіх зьмест быў добры, але разьмер нявытрыманы.

Я. Гр. і Маладому Дубку. З прысланых матэр'ялаў часткова карыстаем. Зьвярніце ўвагу на папраўкі.

Я. К—чуку і М. Д—лу. Вашы вершы слабенькія і дзеля гэтага іх ня можам друкаваць. Радзім больш працаваць над сабой.

М. Батуры і В. Калініну. Вершы зусім слабыя і да друку не падходзяць. Радзім Вам больш іх ня пісаць.

„mita“: Atrymali, dziakujem, karystajem, prosim nie zabywać.

*Кожны беларус павінен мець у сваей хаце беларускі*
*КАЛЕНДАР*
*Найвыгадней купляць-выпісваць беларускія календары ў Бел. Кнігарні «Пагоня»: Вільня, Завальная 1.*
*Цана: Адрыўнога Календара 55 гр., Календара Кніжкі 65 гр.*
*Пры больших закупах вялікая ўступка*